## Юбілей школы



2 стар.

## Беларусь -- радзіма арыяў?



4-5 стар.

## Ціха бабка Байкеры едуць



7 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 15(106) 11-17 красавіка 2002 года | Кошт па дамове

*Фота IREX /ProMedia*



Ужо больш за два тыдні ў Інтэрнэце дзейнічае наш афіцыйны сайт! Пакуль, што мы не паведамлялі пра яго, бо адбывалася яго тэставанне. Сёння «Вольнае Глыбокае"-online – гэта штотыднёвыя навіны, архівы, фотагалерэі, форумы, гасцёўня, чат. Аб'ём і колькасць наведвальнікаў растуць увесь час. Калі навіна важная, вы пабачыце яе хутчэй, чым у газеце. Рэсурс дазваляе праводзіць гутаркі з нашымі землякамі ў рэальным часе. Нягледзячы на тое, што наш сайт зусім малады, гасцявуха ўвесь час папаўняецца, а на форумах ужо распачаліся першыя дыскусіі. Нам пішуць з Францыі, ЗША, Польшчы, Расіі і Беларусі. Далучайцеся і вы да нашай аўдыторыі, чытайце нас, як у традыцыйнай газетнай, так і электроннай форме.

## Наш чэмпіён

**Колішні дзевяцікласнік глыбоцкай школы №3 Сяргей Рогач здабыў дыплом першай ступені на сёлетняй рэспубліканскай алімпіядзе па інфарматыцы.**

Летась Сяргей па сканчэнні 9-га матэматычнага класа паступіў у прэстыжны ліцэй БДУ. Інфарматыкай ён займаўся яшчэ з другога класа, калі бацькі купілі яму камп'ютар. Самавукам ён дасягнуў узроўню прафесійнага праграміста. Нядаўна скончыў працу па стварэнні ўласнай(!) мовы праграмавання. Яго цікавіць праблема штучнага інтэлекту. Хлопец марыць пра сур'ёзную даследніцкую працу ў гэтай галіне.

Поспехаў табе, Сяргей!

*Янка Сяргейчык*

## Апошнюю скуру – на «ДАЖЫНКІ»

**Набыло сілу рашэнне Віцебскага абласнога савета дэпутатаў павялічыць з 2 да 3 працэнтаў стаўку мясцовага мэтавага збору на ўтрыманне інфраструктуры. Сродкі, якія мяркуецца сабраць такім чынам, будуць накіроўвацца на арганізацыю фестывалю-кірмаша "Дажынкі-2002", які ў гэтым годзе пройдзе ў Полацку.**

Павелічэнне стаўкі збору да 3 працэнтаў дазволіць прыцягнуць у абласны бюджэт дадаткова 2 мільярды рублёў. Дэпутаты абласнога Савета матывавалі сваё рашэнне тым, што ва ўсіх іншых абласцях Беларусі стаўкі мясцовага мэтавага збору на ўтрыманне інфраструктуры ўжо ўзраслі, і толькі ў Віцебскай вобласці ў пачатку года яна засталася ранейшай - 2 працэнты. Па словах старшыні Віцебскага абласнога савета дэпутатаў Аляксандра Ацясава, грошы, якія паступаюць ад збора - мэтавыя і яны не будуць выкарыстаныя на іншыя мэты. Таксама ён адзначыў, што рашэнне гэта прынята як выключэнне і будзе дзейнічаць толькі да канца бягучага года.

## Лічбы не ўсяляюць аптымізму

За тры месяцы бягучага года насельніцтва Глыбоцкага раёна зменшылася на 232 чалавекі. Калі такая сітуацыя захаваецца далей, праз 25 год у раёне застанецца толькі палова жыхароў.

Так, за квартал пабачылі свет 79 немаўлят. Але за гэты ж перыяд памёрла 311 чалавек.

Статыстыка трох месяцаў дала амаль чатырохкратную розніцу нараджальнасці і смяротнасці. За сакавік – 29 народжаных супраць 118 памерлых.

Не вельмі ахвотна ў нас ствараюць і сем'і. 62 шлюбы за тры месяцы і 21 за сакавік не спыняць дэмаграфічны крызіс.

*Ю.Калбасіч*

70% малакаперапрацоўчых прадпрыемстваў Беларусі да канца гэтага года стануць стратнымі - спрагназаваў дырэктар дэпартамента харчавання Мінсельгасхарчу Васіль Жукаў. Прычыну гэтага ён бачыць у тым, што большасць такіх прадпрыемстваў знаходзіцца ў камунальнай уласнасці і кіраванне імі адбываецца не па эканамічных законах, але адміністратыўнымі метадамі. У якасці выйсця Мінсельгасхарч прапануе скараціць каля 50 прадпрыемстваў з малой загрузкай магутнасцяў - іх запланавана перапрафіляваць ці акцыянiраваць з удзелам замежнага капіталу.

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных за 31/03/2002 0:00 GMT

| | 4/4 Чц | 5/4 Пт | 6/4 Сб | 7/4 Нд | 6/4 Пн | 7/4 Ат | 8/4 Ср | 9/4 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +12 | +14 | +16 | +16 | +10 | +11 | +7 | +8 |
| з 2 гадзін | -3 | 0 | +2 | +3 | +6 | -1 | +4 | +3 |
| Ціск, мм рт.сл. | 754 | 753 | 753 | 753 | 755 | 752 | 751 | 752 |
| Тэндэнцыя ціску | -1 | -1 | 0 | 0 | +3 | -4 | -1 | +2 |
| Накірунак ветру | Пн-У | Пд | Пд | Пн | Пн-З | Зах | Пн | Зах |
| Хуткасць ветру, м/с | 1 | 2 | 1 | 2 | 6 | 4 | 6 | 4 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

**Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" -- 63668. Кошт падпіскі на месяц - - 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.**

**Нагадваем, што наша выданне ўжо можна выпісаць і на Пастаўшчыне.**

# Срэбны юбілей

**25 год для школы, здаецца, не такі і вялікі час. Але гэта школа ў Глыбокім мае сваё, адметнае значэнне. Таму святкаванне срэбранага юбілею СШ № 3 стала сапраўдным святам і для настаўнікаў навучальнай установы, і для вучняў, былых і цяперашніх, і для шматлікіх гасцей гэтага мерапрыемства.**

**Што казаць, пачалося свята з таго, што вакальная група настаўнікаў школы выканала яе гімн, напісаны на вершы дырэктара Віталя Гарановіча, а музыку стварыла таксама настаўніца школы Ганна Шакола. І ўвогуле ўся ўрачыстасць праходзіла пад акампанемент песень, створаных гэтым дуэтам.**

"Песню першакласніка" выканала маленькая Наташа Юргель, якая, напэўна, сабрала найбольш удзячных



апладысментаў.

Прайшоўшыя гады сталі для калектыву школы плённымі без аніякіх выключэнняў. Нездарма ж яна сёння з'яўляецца навучальнай установай інавацыйнага тыпу. Выпускнікі школы паспяхова паступалі і паступаюць ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі. Многія з іх ужо сталі выдатнымі навукоўцамі, эканамістамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў, вайскоўцамі. Ды дзе толькі ні сустрэнеш былых выхаванцаў школы!

У дзень гэтага свята шмат было віншаванняў школе, як калектыву. Адзначым толькі, што прачула выказаўся на свяце старшыня Глыбоцкага райвыканкома Мікалай Кандзерскі. Ён высока ацаніў уклад школы ў навучанне і выхаванне падрастаючага пакалення. І між іншым, адзначыў, што беларускае навучанне ў школе ніхто не будзе ламаць. І далей навучанне на беларускай мове ў гэтай школе застанецца. Віншавалі юбіляраў загадчык раённага аддзела адукацыі Раман Тарасевіч, дырэктар Глыбоцкага ліцэя



прафесіянальнай адукацыі Г.Жук і многія, многія іншыя.

Школе не дарылі вельмі каштоўных падарункаў, але кожны падарунак быў у нечым шматзначным, каштоўным па сваёй сутнасці. І сапраўды, чаму не каштоўная для школы карціна, напісаная мясцовым мастаком. Яна захаваецца на дзесяцігоддзі, ля яе будуць стаяць новыя і новыя пакаленні навучэнцаў.

На здымках, якія змешчаны на гэтай старонцы, вы можаце ўбачыць толькі некалькі момантаў вялікага свята, што стала для школы знакавым. А закончым словамі адной з былых выпускніц школы, якая сказала: "Родны будынак, які саграе сэрца". Што ж, школа і павінна быць такой.

*Ул. Скрабатун (фота аўтара)*



# ТІВО-2002

## альбо ДЗЕ КАМП'ЮТАРАЎ БОЛЬШ, ЧЫМ ЛЮДЗЕЙ

На працягу ўсяго мінулага тыдня ў Мінску праходзіла ТІВО-2002, найвялікшая ў нашай краіне выстава ў галіне інфармацыйных тэхналогій. Практычна ўсе асноўныя камп'ютарныя фірмы сталіцы мелі тут свае стэнды, прадстаўлялі сваю прадукцыю і спрабавалі давесці, што менавіта іх прадукцыю варта купляць, а не канкурэнтаў. Былі тут і "Камп'ютарная газета", і "Чалавек і Інтэрнет", добра вядомыя глыбоцкім чытачам. Вось толькі стэнды іх пуставалі, бо гледачоў цікавілі найперш электронныя прылады і камп'ютары, якіх на ТІВО кішма кішэла. Былі тут і кампактныя ноўтбукі (ад 1200 у.е. за штуку), і кішэнныя камп'ютары, і вадкакрысталічныя маніторы (ад 300 у.е.), і хатнія кінатэатры (ад гука калонак можна аглохнуць). Правайдэры спрабавалі пераканаць, што менавіта іх падключэнне да Інтэрнэта найхутчэйшае і таннейшае. У прыватнасці, быў прадэманстраваны Інтэрнэт праз DSL-лініі (3-6 Мбіт/с). На другім паверсе праходзіў чэмпіянат па камп'ютарных гонках. Як ні дзіўна, больш за ўсё народу было менавіта тут. Спаборніцтва каменціраваў прафесійны дыктар, увесь час мігалі фотакамеры, а немалыя шэрагі балельшчыкаў сведчылі, што камп'ютарныя гульні робіцца сапраўдным відам спорту з цэлай арміяй аматараў, якая не спыняе павялічвацца.

Што дае падобная выстава звычайнаму смяротнаму пакупніку? Кошты на прадстаўленую прадукцыю могуць шакаваць нават не самага беднага наведвальніка. Прыкладам, цана сярэдняга праектара, якіх на ТІВО было шмат, сягае ад 7 да 10 тысяч долараў. Адзінае, што асэнсоўваеш, гэта тое, што тэхніка імкліва рушыць наперад, і каб за ёй паспяваць, трэба мець адпаведныя заробкі. Калі сітуацыя ў краіне не зменіцца, большасці беларусаў найноўшыя дарагія мадэлі аргтэхнікі будуць яшчэ доўга даступны толькі ў выглядзе экспанатаў на выставах, падобных ТІВО. Тым не менш, наконт камп'ютараў ёсць жалезнае правіла – "жалеза" мусіць быць новым і сучасным, таму капіце грошы, спадарства і... купляйце новыя камп'ютары.

*А.Храпавіцкі з ТІВО-2002*

# У нас будзе свой куточак Еўропы

**Усе наведвальнікі "хітрушкі" задзіралі галовы і сачылі за тым, як магутны экскаватар варушыў земляныя глыбы побач, на ўзгорку. Каму спатрэбілася капаць каля старога дома, які ўжо пачаў рассыпацца? Гэтае ж пытанне хвалявала і нашу газету, бо мы заўсёды стаялі за адраджэнне даўніны і ператварэнне Глыбокага ва ўтульны еўрапейскі горад. Калі на будоўлі мы натрапілі руплівага кіраўніка – Аляксандра Сяргеевіча Калбасіча, то ўсе пытанні былі зняты. Ён з ахвотай згадзіўся раскрыць планы прадпрыемства Глыбокаерайгаз наконт рэстаўрацыі помніка архітэктуры.**

Што прыдае Глыбокаму непаўторны каларыт? Чаму госці, якія прыязджаюць сюды, застаюцца пад самым лепшым уражаннем ад мясцовых гарадскіх краявідаў. Цэнтр горада – гэта забудовы ХІХ – пачатку ХХ стагоддзя. Камянічкі, якія сталі сведкамі дзвюх сусветных войнаў, зменаў улад. Сёння іх бляшаныя дахі і шэраватабрудная афарбоўка наўрад ці перанясуць нас у далёкія гады іх будаўніцтва.

-- Знешні выгляд будынка будзе такім, як у ХІХ стагоддзі. Ёсць праект добраўпарадкавання тэрыторыі вакол будынка, каб гэта выглядала як «невялікі куточак Еўропы»– з гонарам за сваю справу паведаміў нам Аляксандр Сяргеевіч.

-- Будуць захаваны ўсе вокны, усе праёмы, дах будзе накрыты чырвонай металачарапіцай. Зробім азяленне, каб гэтае месца радавала вока не толькі любога глыбачаніна, але і нашых гасцей.



Рэканструкцыю вядзе Полацкі трэст №22, вядомая ў вобласці арганізацыя. Глыбокаерайгаз працуе з трэстам па ўзаемаразліках за газ і элекраэнергію, бо не мае адпаведных сродкаў. Да канца бягучага года работы плануецца завяршыць.

Мы пацікавіліся аб будучым функцыянальным прызначэнні адрамантаванага будынка. Адказ кіраўніка вытворчага ўпраўлення "Глыбокаерайгаз" парадуе многіх глыбачан:

-- Гэта будзе адміністрацыйны будынак. Плануецца размясціць для зручнасці насельніцтва прыём заявак, кожны зможа тут вырашыць пытанні па дастаўцы газа і аплаце за яго карыстанне. Тут жа будзе майстар па рамонту газавага абсталявання, бухгалтэрыя. Сюды хутка перанясуць фірменны магазін "Метан".

Побач, у некалькі дзесятках крокаў ад месца будоўлі – муры пачатку XVIII стагоддзя. На жаль, яно не будзе адрэстаўрыравана, бо належыць Віцебскай кінасетцы. Застаецца спадзявацца на дапамогу гарадскіх уладаў. Глыбокаерайгаз рамантуе толькі частку будынка, якая цяпер належыць прадпрыемству. Але вялікі корпус, які знаходзіцца ў ведзенні аддзела культуры, відаць, будзе чакаць лепшых часоў у сваім цяперашнім выглядзе.

*Ю. К*

# Справа заведзена

1 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў з дакладам Генеральнага пракурора Віктара Шэймана. У дакладзе, у прыватнасці, адзначалася, што ў сувязі са злоўжываннем службовым становішчам і іншымі процінраўнымі дзеяннямі ўзбуджана і расследуецца крымінальная справа ў адносінах першага намесніка старшыні Глыбоцкага райвыканкама Мацеўскага М. М. Аб гэтым ужо паведамілі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. За паўмесяца да гэтага газета "Витебский Курьер" (№ 20 за 15.03.2002г.) ужо аб фактах злоўжывання службовым становішчам аднаго з намеснікаў Глыбоцкага райвыканкома. Газета паведаміла, што праверку фінансава-гаспадарчай дзейнасці Глыбоцкага райвыканкома праводзіла Упраўленне камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС па Віцебскай вобласці. Рэвізоры выявілі нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў на суму 140 мільёнаў рублёў, а таксама другія факты злоўжыванняў службовым становішчам.

Гэта навіна з цікавасцю была сустрэта ў Глыбокім. Людзі абмяркоўвалі гэты факт на рынку, у грамадскім транспарце, на працы. Многія звязвалі з гэтым затрымку зарплат і пенсій, сваё дрэннае матэрыяльнае становішча. Хаця, на маю думку, прычына не толькі, ды і не столькі ў гэтым.

*Зміцер Лупач*

# Рэгіён



Глыбачанкі Архіпава Таццяна і Шышло Вольга скончылі Глыбоцкую СШ№2, сяброўкі дзяцінства, любяць адпачываць на прыродзе з фотаапаратам. Таццяна (злева) -- дамашняя гаспадыня, Вольга вучыцца ў Мінску ў фінансава-эканамічным каледжы.

## Калбасы – заваліся

**Нязвыкла бачыць напалову пустым побач з прахадной фірменны магазін ордэна "Знак Пашаны" ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат". У былыя часы працаваў ён на поўную магутнасць, вагонамі адпраўляў прадукцыю, але варанай каўбасы ў горадзе не было.**

Цяпер на паліцах шмат далікатэсаў, але большасці пакупнікоў яны не па кішэні. Людзі ганяюцца за ўсім, што танней, асабліва за субпрадуктамі. Некаторае ажыўленне назіралася, калі ва ўстаноўлены дзень абслугоўвалі ветэранаў прадпрыемства, якое адзначыла ў мінулым годзе сваё 65-годдзе. Гэты год па частцы усемагчымых цяжкасцяў стаў крызісным не толькі для глыбачан, але і для ўсёй галіны.

-- Зноў з-за коштаўтварэння, -- гаворыць дырэктар мясакамбіната Анатоль Дук, -- усе вытворцы і перапрацоўшчыкі мяса апынуліся ў жорсткіх цісках. Закупачныя кошты на сыравіну з верасня выраслі на 60 працэнтаў, а адпускны кошт кілаграма варанай каўбасы не павінны перавышаць 2163 рублі і жорстка рэгулюецца. Але тую ж ялавічыну сярэдняй укормленасці мы прымаем па 2227 рублёў за кілаграм жывой вагі. Больш укормленую – даражэй. А рашэнне аб кампенсацыі нашых страт прынялі толькі на днях. У выніку толькі ў студзені страты прадпрыемства перавысілі 8 мільёнаў рублёў. Зразумела, настрой ва ўсіх работнікаў далёка не радасны. У яшчэ большым засмучэнні вярнуўся малады кіраўнік са Смаленска, дзе на аналагічным камбінаце ў расіян пабачыў пяць новых сучасных аўтаматычных ліній. У гэтым годзе шлях на рынак суседний дзяржавы стаў перакрыты – наша мяса і каўбасу не бяруць з-за высокіх коштаў.

Чыноўнікі, якія курыруюць галіну, патрабуюць росту вытворчасці і пераходу на новыя тэхналогіі. Ды вось бяда: буйнейшы ў вобласці мясатлушчавы цэх быў выкарыстаны на 17,7% сваёй магутнасці і выпусціў за год 3800 тон мяса на костцы. Дзякуючы сучаснай упакоўцы, тэрмін захоўвання каўбасы давялі да 20 сутак, а выпусцілі яе за год 2638 тон. Маглі б і больш, але ніяк не закончыцца на камбінаце рэканструкцыя. Яна цягнецца з 1988 года. Другую частку рэканструкцыі камбінат правёў за свой кошт, аллядзіў шэраг цэхаў і водазабор. Яшчэ больш вострая праблема з сыравінай, паколькі статак жывёлы ў слабых калгасах увесь час зніжаецца. А яшчэ камбінат прымушаюць падтрымліваць яўных банкрутаў, да прыкладу, свінакомплекс ЗАТ "Малі-ноўшчына", у які "ўбухалі" 200 млн. рублёў. Хоць і поўнасцю перайшлі на безадходную тэхналогію, пры такой палітыцы крэдытавання безнадзейных гаспадарак выйсці на тэхналагічны прарыў – задача фантастычная. Каб не было гэтых штучных перашкод, мясакамбінат змог бы ўжо заўтра рабіць тушонку, розныя мясныя паўфабрыкаты, ды і разлічвацца з пастаўшчыкамі без затрымак. А пакуль большым попытам карыстаюцца расійскія і польскія каўбасы і вэнджанні.

*У.Шык*

## Злодзей "перастараўся"

Рэдкі выпадак у міліцэйскай практыцы: адразу два дзёрзскія кватэрныя крадзяжы ў Глыбокім былі раскрыты на працягу адной гадзіны. Ехаўшы ў госці да сваякоў, якія жывуць у Полацку, жыхар вёскі Беразіно Докшыцкага раёна К. на паўдарозе ў райцэнтры абакраў два жылыя дамы, разбіўшы ў іх вокны. Сваю гаспадарчую сумку зламыснік даверху набіў крадзеным, а ў спадабаўшуюся куртку злодзей нават пераапрануўся на месцы злачынства. Па гэтай прыкмеце аператыўнікі ў хуткім часе і затрымалі з украдзеным злодзея, настолькі прагнага да чужой маёмасці. На жаль, не заўсёды цяпер пацярпелым грамадзянам можна спадзявацца, што іх крыўдзіцеляў знойдуць і пакараюць. З зарэгістраваных у 2001 годзе на Глыбоччыне 125 крадзяжоў (з іх 102 у насельніцтва) у 40 выпадках правапарушэнні так і засталіся нераскрытымі.

*У.Шык*

## Міма касы

Сумнае відовішча прадстаўляе сабой цяпер гарадскі стадыён у Глыбокім, хаця ў гэтым годзе павінен быў пачацца другі этап работ па яго рэканструкцыі. Да гэтага тут ужо пайшло 200 мільёнаў рублёў на ўзвядзенне футбольнага поля, бегавых дарожак, пачалі вырысоўвацца контуры плоту. Але па словах загадчыка аддзела па фізкультуры і спорту райвыканкома Міхаіла Арэхава, грошай у 2002 годзе на новы стадыён не будзе, а ўсе сродкі з цэнтра пойдуць на добраўпарадкаванне стадыёна "Дынама" ў абласным цэнтры. Нагадаем, што ў райцэнтры давялося весці рэканструкцыю спартыўнай арэны пасля таго, як тут былі выяўлены і дастаныя астанкі 528 пахаваных ваеннаслужачых вермахта. Па праекту ў горадзе марылі ўзвесці стадыён еўрапейскага ўзроўню на 2500 месцаў, з двума заламі, манежам і прэс-цэнтрам у падтрыбунных памяшканнях. З трэніровачнай базай цяпер у глыбачан дрэнна, хаця тут і падрыхтавалі 10 членаў розных зборных Беларусі.

*У.Шык*

### Фотафакт



Тое, што многія глыбоцкія кіроўцы аўтамабіляў сябруюць з гарэлкай і не сябруюць з правіламі дарожнага руху -- факт неаспрэчны.

Перайсці вуліцу па пешаходным пераходзе -- таксама праблема. Ніводзін аўтамабіліст не саступіць. Калі ж здараецца адваротнае, і цябе прапусцілі, заўсёды звяртаю ўвагу на нумары. Як правіла, гэта літоўскія і польскія, але не беларускія.

Гэты слуп на вул. Леніна ўжо не аднойчы спыняў неўтаймаваных аўтамабілістаў, ратуючы пешаходаў ад трагічных наступстваў. Напэўна, неўзабаве, яго занясуць у кнігу рэкордаў і ён стане мясцовай славутасцю.

Гэта аварыя не мела трагічных наступстваў, але без цялесных пашкоджанняў не абышлося.

*Фота Ул. Скрабатуна*

## Лепш паляваць з фотаружжом

Сумна завяршылася для 34-гадовага Івана П. з вёскі Азярцы Глыбоцкага раёна яго прывязанасць да зброі. У сваім доме ён незаконна захоўваў нарезную вінтоўку М-81. За гэта быў асуджаны да 18 месяцаў пазбаўлення волі і быў накіраваны ў калонію строгага рэжыму. З прыняццем восенню 2001 года беларускім парламентам новага закона "Аб зброі" значна ўскладнілася жыццё не толькі паляўнічых, але і ўладароў газавых пісталетаў, спартыўнай і сігнальнай зброі. Калі ў мінулым годзе за парушэнне правілаў захоўвання, рэгістрацыі і палявання былі канфіскаваны 33 адзінкі зброі, то са студзеня па люты 2002 года – ужо 8 ствалоў. Прычым, зараз любы грамадзянін караецца ў адміністрацыйным парадку як за парушэнне правілаў захоўвання, так і за парушэнне тэрмінаў рэгістрацыі і перарэгістрацыі зброі. Усе ўладальнікі нарезных і гладкаствольных ружжаў павінны мець дзяржаўныя білеты, якія выдаюць лясгасы. Жыхар Глыбокага гэтым правілам пагрэбаваў. За гэта судом быў пазбаўлены свайго ружжа з забаронай на права палявання на 2 гады.

## Па выхадных – даражэй

Сапраўды непрыемны сюрпрыз адчулі на сабе ў мінулыя суботу-нядзелю ўсе, хто карыстаўся ў Паставах паслугамі грамадскага транспарту. За адну паездку цяпер у выхадныя і святочныя дні на ўсіх аўтобусных маршрутах прыйдзецца плаціць не 120, а ўжо 240 рублёў. На такія непапулярныя меры пайшоў мясцовы аўтапарк №17, калі апынуўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Мінулы год прынёс транспартнікам 32,9 млн. рублёў страт. Хоць нічога на маршрутах не памянялася, яны сталі проста па-іншаму называцца – экспрэсныя. Затое ўладальнікам месячных праязных білетаў давялося ўсё роўна даплочваць па 120 рублёў за кожную паездку. Добра яшчэ, што па выхадных захаваліся льготы на праезд школьнікам і пенсіянерам.

Але калі людзі цяпер нават па 8-10 дзён у месяц будуць аплочваць праезд у двайным памеры, то і тады захаванне існуючых маршрутаў застаецца праблемным.

## З каханнем па жыцці

Не адразу адважыліся муж і жонка Наталля і Міхаіл Працкевічы з вёскі Рачныя Ўрачыста адзначыць сваё залатое вяселле ў Доме культуры. Але потым вырашылі, што такое свята патрэбна, асабліва для маладых. У Тумілавічскім Доме культуры ў той дзень бабуля і дзядуля, якія выхавалі траіх дзяцей і чацвярых унукаў, хваляваліся, як у дні свайго вяселля ў гады вайны. Затое потым на ўрачыстай цырымоніі ўсім стала хораша ад шчымлівых песень фальклорнай групы, падарункаў, віншаванняў тых, хто сабраўся ,і вальса для залатых юбіляраў. Дарэчы, у жыцці главы сямейства ў апошні час гэта другая па ліку знамянальная падзея. Міхаілу Іванавічу, які прайшоў вайну, давялося ў 2000-м годзе адбіваць крок у калоне франтавікоў на Чырвонай плошчы ў Маскве ў час святкавання 55-годдзя перамогі над фашызмам.

## Гімназісты азёрнага краю

Узровень ведаў навучэнцаў гімназіі ў Браславе стаў настолькі высокім, што ўжо 95% мінулагодніх выпускнікоў сталі студэнтамі вядучых ВНУ не толькі нашай краіны, але Польшчы і Расіі. Да гэтага штогод студэнцкія аўдыторыі папаўняліся трыма з кожных чатырох выпускнікоў лепшай школы азёрнага краю. Сама гімназія была ўтворана ў 1995 годзе, калі ёй перадалі недабудаваны будынак райвыканкома, які зараз не пазнаць. У гімназію трапляюць па конкурсу толькі самыя здольныя і таленавітыя, бо вучыцца тут прэстыжна. Тут ужо два кампьютарныя класы з прамым доступам да інтэрнэту, а мастацтва кампьютарнай графікі дзеці засвойваюць у 5 класе. Паколькі гімназія мае лінгвістычны ўхіл, другая замежная мова ў праграме з шостага класа. Сярэдні ўзрост педагогаў – 30-35 год. Калектыў настаўнікаў цесна супрацоўнічае са сталічнай акадэміяй паслядыпломнай адукацыі. Праўда, не ўсе гімназісты вытрымліваюць высокія патрабаванні да ўзроўню ведаў і штогод да 3% вяртаецца ў звычайныя школы.

## З-за чаркі чатыры судзімасці

Беспрастаннае жыццёвае бязладдзе стала праследаваць былую работніцу калгаса "Чырвоны сцяг", што ў Докшыцкім раёне, Зінаіду С. пасля таго, як яна палюбіла спіртныя напоі. Спачатку суд абмежаваў яе ў дзеяздольнасці, потым пазбавіў бацькоўскіх правоў. У няпоўныя 40 гадоў, здавалася, яшчэ можна было б пачаць другое жыццё. Але за крадзёж у калгасе яе караюць двума гадамі папраўчых работ. На працы сталі бачыць гэту жанчыну спачатку праз дзень, а потым прагулы, як і запоі, сталі больш даўжэйшымі. У адзін з месяцаў яна 22 дні не з'яўлялася на працу.

*У.Шык*

Міхаіл Галдзянкоў

# Беларусь –

"Знаёмства з Беларуссю з`яўляецца нечым накшталт Калумбава адкрыцця Амерыкі..."

*І.С. Аксакаў.*

**Як паказваюць найноўшыя даследаванні, 5 чэрвеня 8499 года да нашай эры, у 13 гадзін дня астэроід з роя Адоніса, маса якога пераўзыходзіла 2 млрд. тон, сутыкнуўся з Зямлёй. "У адзін дзень і бядотную ноч" Атлантыда знікла, пагрузілася ў праддонне акіяну. Зямная кара была прабіта ўдарам звонку з сілай, якая пераўзыходзіла энергію выбуху 30 тысяч хірасімскіх атамных бомб. Вось Зямлі была збіта, палюсы пачалі імкліва астываць. Акрамя таго ўдар выклікаў вадзяную хвалю вышынёй да 10 кіламетраў, якая змывала ўсё на сваім шляху, хаваючы пад магутным слоем ілу сібірскіх мамантаў, спусташаючы зямлю і зносячы з сабой у Сусветны акіян целы загінуўшых людзей і прадметы іх матэрыяльнай культуры. Падзеі, якія адбыліся 10500 гадоў таму, супадаюць з Біблейскімі апісаннямі Сусветнага патопу.**

**Удар разбудзіў вулканы. Разлікі паказваюць, што з-за вулканічнай актыўнасці неба над планетай як быццам "знікла" на 2 тысячы гадоў, пакуль Зямля не супакоілася. Толькі потым цемра пачала рассейвацца, і Зямля, як быццам, наноў нарадзілася. Вось адкуль у памяці чалавецтва міфы аб "першазданным хаосе і цемры", калі не было падзелу паміж небам і зямлёй, светам і цемрай. Гэты матэрыял, які прапануецца ўвазе нашых чытачоў, аб падзеях, якія адбываліся на Беларусі пасля гібелі Атлантыды і Сусветнага патопу. Ваколіцы Глыбокага, Браслава, Пастаў 10500 гадоў таму сталі гарнілам новага народа.**

*Прадмова "ВГ"*

Аб прарадзіме індаеўрапейцаў шмат пісалі і спрачаліся. Дзе ж знаходзілася легендарная Гіпербарэя? Шукалі яе ў Сярэдняй Азіі і на Дунаі, і на Паміры, і ў Тыбеце... Усе гэтыя варыянты, аднак, даводзіцца абвяргаць.

Абставін для імклівага росту насельніцтва на гэтых абшарах ніколі не было. Найноўшыя доследы навукоўцаў паказваюць, што мы шукаем зямлю, на якой, магчыма, і стаім...

Друкуецца са згоды «Аналитическая газета "Секретные исследования"» паводле артыкула М.Галдзянкова "Беларусь і Заходняя Расія -- радзіма індаеўрапейцаў", №12(12), 2001 г.

## Ратуючыся ад сцюжы

Старажытныя грэкі апавядалі аб далёкай паўночнай краіне Гіпербарэі як аб зусім рэальнай зямлі, краіне продкаў. Сучасныя навукоўцы, якія прызвычаіліся, што грэкі былі майстрамі складання міфаў, спісалі Гіпербарэю на чарговую містыфікацыю. "Кніга Вялеса", найстаражытнейшы летапіс паўночных славян, які дайшоў да нашых дзён, апавядаючы аб рассяленні продкаў, кажа наступнае: "Зноў і зноў сцюжа вялікая прыходзіла. Таму родзічы сталі біцца за аваладанне іншымі краямі". Што, зноў містыфікацыя? Так, навукоўцы не вераць ёй, гавораць, што ў "Кнізе Вялеса" занадта шмат спрэчнага.

Паданні шмат якіх індаеўрапейскіх народаў апавядаюць аб тым, што да ледавіковага перыяду Еўразія была значна "вышэй", і паступовае пахаладанне і пагружэнне паўночных участкаў і кантынента ў ваду прымусілі нашых продкаў зыйсці на поўдзень.

Згодна эзатэрычнаму вучэнню, сучасны перыяд развіцця чалавецтва з`яўляецца эпохай Белай Расы, пятай па ліку. Тэасофская традыцыя кажа, што арыйская раса зарадзілася на далёкай поўначы, хоць пасля пагружэння Атлантыды ў праддонне вод народы, што яе насялялі, перабраліся на поўдзень, у Азію. "Росквіт Белай Расы здзяйсняўся пад ледзяным подыхам Паўночнага полюса... Гэтыя людзі, рудавалосыя, блакітнавокія, ішлі з поўначы праз лясы, якія асвятляліся паўночным ззяннем, у суправаджэнні сабак і аленяў, якіх вялі смелыя правадыры, натхнёныя дарам прадбачання сваіх жанчын. Золата і блакіт вачэй -- колеры прадвызначаныя. Гэтай расе прызначана было стварыць сонечны культ свяшчэннага агню" (Э. Шюре, «Великое посвящение». Калуга, 1914).

Таксама белую расу часта клічуць арыйскай, таму што многія з яе народаў называлі сябе арыямі (воінамі). Але кім была гэтая загадкавая арыйская белая раса? Даследчыкі сцвярджаюць, што ў пачатку свайго развіцця Белая Раса была расай чыстых еўрапеоідаў, якія размаўлялі на індаеўрапейскай мове, якая склала аснову ўсёй індаеўрапейскай моўнай сям`і: мовам германскім, раманскім, славянскім, іранскім і індыйскім. У рэканструяванай індаеўрапейскай мове часоў палеаліта сярод асноў, якія звязаны з апісаннем надвор`я, існуе тры для азначэння холаду і ніводнай -- для цёплага часу года. Таксама ў індаеўрапейскіх мовах ёсць агульныя назвы для жывёл і раслін паўночнай і сярэдняй паласы: воўк, мядзведзь, бяроза, дуб. Але няма агульных слоў для азначэння тыфу, вярблюда ці пальмы. Гэта доказвае, што продкі індаеўрапейцаў атачала зусім не паўднёвая прырода.

## Скандынаўскія карані арыяў

Згодна "Тайнай Дактрыне" Блавацкай, існаванне і росквіт асноўнага матэрыка Атлантыды адносіцца да дачверыковага перыяду. Паўночная выспа Атлантыды ўключала Грэнландыю, Скандынавію, паўночную частку Еўропы і Сібіры і называлася "Белай Выспай".

У народным фінскім эпасе "Калевале" Паўночная Нарвегія названая Руцья (а зараз Ruosti па-фінску Швецыя). Нельга не заўважыць, што ў экзатычным паданні адна з краін Атлантыды, дзе зарадзілася Белая Раса, таксама менавалася Руць (альбо Рута): "Зямля Атлантаў злучалася з Белай Выспай, і гэта Выспа была Рута".

Паводле Платона, пасля затаплення асноўных выспаў рэшты атлантаў і іх нашчадкаў з`яўляюцца на поўдні Еўразіі і ў Афрыцы. Негроіды і неандэртальцы, якія ўмоўна называюцца ў акультызме Чорнай Расай, былі нашчадкамі некалі вялікіх народаў Атлантыды. У адрозненне ад сучаснай навукі, якая церпіць бедства, якая канчаткова заблыталася ў пошуках малпавых продкаў чалавека, тэасофскі акультызм сцвярджае, што чалавек еўрапеоідный расы не быў нашчадкам малпаў, а прыйшоў у Еўразію з поўначы. Усе "пераходныя віды ад малпаў да чалавека" адбыліся ад змяшання двух рас -- Белай і Чорнай, а таксама ў выніку парадненния спустошаных нашчадкаў атлантаў з ніжэйшымі расамі людзей.

У Ведах захаваліся ўспаміны аб паўночнай прарадзіме. Там знаходзіцца легендарная Меру, цэнтр светаўтварэння. Авеста, свяшчэннае паданне старажытных іранцаў, таксама кажа аб паўночнай прарадзіме арыйцаў, дзе з захаду на ўсход працягнуўся хрыбет вялікай Хары, над якім ззяюць сем зорак Вялікай Мядзведзіцы і Палярная зорка. Горы аддзяляюць землі ад Белага мора, а з іх вяршыняў бяруць пачатак рэкі. Там, на землях Арйан Вэджа, паўгода ноч і паўгода -- дзень. Тыповае апісанне палярнага дня і ночы. Таксама ў старажытных іранцаў назвы частак свету былі арыентаваны наступным чынам: наперадзе -- поўдзень, ззаду -- поўнач. Доказ таго, што арыі рухаліся з поўначы на поўдзень. Арыйцы безупынна змагаліся з нашчадкамі першых рас. Гэта вайна працягвалася амаль да канца веку, які папярэднічаў Калі-Юге, і называлася яна Махабхарата, альбо Вялікая Вайна. Падчас позняга палеаліту, прыкладна 10 тысяч гадоў назад, арыі ўжо значна прасунуліся на поўдзень, заняўшы разлеглую тэрыторыю ад Рэйна да Алтая.

## Легендарная Скандыя

У канцы XVIII ст. упершыню былі апублікаваныя старажытнаскандынаўскія паданні, у якіх пісалася, што краіну продкаў нарманы называлі Вялікі Свіцьод -- "Вялікі Вулей". Яна таксама называлася Скандык -- "багатая краіна" (аб гэтым тэрміне крыху ніжэй). За тысячу год да запісу першых скандынаўскіх паданняў вялікі навуковец антычнасці Клаўдый Пталемей пісаў у сваёй "Геаграфіі" наступнае: "За Сармацкім разлівам ляжыць вялікая выспа, якую клічуць Скандыя альбо Эрыцій. І гэта ёсць легендарная краіна нашых продкаў гіпербарэяў, гарніла народаў, кузня народаў свету. Там з Рыфейскіх гор зыходзяць вялікія рэкі і ўздоўж іх слаўнейшыя ў свеце лугі з незлічонымі статкамі быдла. Там урадлівыя палеткі між вялікіх лясоў, і нідзе зямля не дае больш лепшых ураджаяў. Адсюль распаўсюдзіўся досвед апрацоўваць зямлю і каваць метал".

Здаецца, што Скандыя Пталамея -- гэта Скандынавія. Здаецца, праўдападобна. Але самі старажытныя скандынавы лічылі інакш. Для іх свяшчэнная зямля продкаў ляжала на паўднёвым усходзе. Менавіта ў тым кірунку паплыла ладдзя з пахавальным вогнішчам Одзіна -- першага культурнага правадыра свеяў. А яшчэ раней продкі свеяў, якіх аб`яднаў той самы Одзін, пераплыўшы ў ладдзях Балтыйскае мора, прыбылі ў зямлю Швецыі. У памяць аб свяшчэннай зямлі продкаў Скандыку яны назвалі новую зямлю Скандынавія, а першы агмень на ёй -- Малы Свіцьёд, пазней Свенска (Швецыя). Менавіта адтуль, з "Малога Вулля", быццам рой пчол, разляцеліся свеі (шведы), готы і русы, якія нізвергілі Рым, якія захапілі Іспанію, Балканы і Усходнюю Еўропу і заснавалі пазней Швецыю і Русь; даны і нарвежцы, якія заснавалі Данію, Нарвегію і Нармандыю ў Францыі, якія засялілі таксама Ісландыю, Брытанію, Бельгію і Галандыю, якія адкрылі Грэнландыю і Паўночную Амерыку; а таксама англы з ютамі, якія заснавалі Англію, і скоты, што засялілі Шатландыю, якую на арыгінальнай мове назвалі Скотланд.

Скот -- славянскае слова, якое азначае хатніх жывёл, у старажытнасці для нашых продкаўземляробаў мела значэнне багацця наогул (а багацце і вызначалася колькасцю жывёлы, і гэтыя словы былі сінонімамі). "Ланд" (зямля) таксама мае агульнае са славянскай мовай значэнне. У нашых продкаў "лендзіна" азначала зямельны ўчастак.

Але дзе ж менавіта размяшчаўся той самы Вялікі Вулей, легендарная Скандыя, гарніла ўсіх індаеўрапейскіх народаў? Куды паплыў Одзін, галоўны паганскі бог вікінгаў, на пахавальнай ладдзі? Яшчэ ў 1924 годзе прафесар Ф.А. Браўн, які вывучаў германаславянскія сувязі, пісаў у кнізе, што выйшла ў Берліне, што прарадзіму індаеўрапейцаў трэба шукаць у Сярэдняй Расіі. "Мова старажытных славян высокаархаічная,-- пісаў ён, -- і, значыць, бліжэй іншых да праіндаеўрапейскай". Дадзеныя археалогіі і палеанталогіі таксама кладуцца ў сістэму доказаў гіпотэзы

# радзіма арыяў?

Браўна аб тым, што месцазнаходжанне агменя індаеўрапейскіх народаў трэба шукаць ва Усходняй Еўропе. А дакладней, у яе цэнтры (дзе і знаходзіцца Беларусь). Вось дзе знаходзіўся легендарны "Вялікі Вулей". Скандынавы і сталі апошняй галіной, якая адмежавалася ад агульных для іх і славян продкаў.

Такім чынам, арыйцы, якія прыйшлі з поўначы на тэрыторыю нашай краіны, паклалі пачатак усёй індаеўрапейскай сям`і, тады як больш паўночна-усходнія арыйцы трансфармаваліся ў фіна-угорскую групу. Зразумела, што інфармацыя Браўна аб сапраўднай радзіме індаеўрапейцаў, якая распаўсюдзілася ў другой палове дваццатых гадоў у Германіі, выклікала гнеў у нямецкіх нацыяналістаў, якія пазней выведуць тэорыю, што яны самі, маўляў, і ёсць сапраўдныя продкі арыяў.

## Беларусь -- радзіма арыяў!

Так, менавіта адсюль, з тэрыторыі Беларусі і Заходняй Расіі, па ўсёй Еўропе пайшлі хвалі перасяленцаў -- арыйскіх нашчадкаў, якія далі пазней не толькі індаеўрапейскія народы, але і цюркаў і нават семітаў. На ўсход Волга-Окскага міжрэчча суседзямі продкаў індаеўрапейцаў былі арыйцы-продкі фіна-ўгорскіх народаў. Адсюль пачалося іх рассяленне па абшарах Паўночнай Еўропы і Сібіры, адсюль продкі -- угры (венгры) пайшлі на Дунай. Старажытныя цюркі таксама былі людзьмі высокімі, светлавалосымі і блакітнавокімі. Аб гэтым кажуць і кітайскія мініяцюры, з вывамі Чынгісхана, Батухана і іх бліжэйшых нашчадкаў.

Насуперак класічнай тэорыі індаеўрапейцы не выйшлі, а прыйшлі ў Індыю. Амерыканскі даследчык Колін Рэнфр`ю пісаў у 1989 годзе ў № 12 часопіса «Scientific American», што не з Азіі, а ў Азію шляхам мірнага распаўсюджання земляробства пранікла арыйская мова. У першасным агмені гэтай мовы, у лясной зоне Поўначы, дзякуючы новаму спосабу гаспадарання шчыльнасць насельніцтва ўзрасла прыкладна ў 50 разоў (!), і гэта насельніцтва, якога было ў лішку, пачало разыходзіцца ва ўсіх накірунках з хуткасцю каля 20 кіламетраў за пакаленне.

Прафесар Дэлійскага універсітэта Дыкшыт таксама лічыць, што "тэрыторыя сярэдняй Расіі можа прэтэндаваць на тое, каб лічыцца прарадзімай індаеўрапейцаў..."

Правёўшы лінгвістычны аналіз тэрмінаў індаеўрапейскіх моў, доктар гістарычных навук Р. Дамаскі больш дакладна акрэсліваў межы радзімы індаеўрапейцаў -- гэта цэнтральная па геаграфічных мерках Еўропа -- Беларусь, Ноўгарадская і Смаленская вобласці. Менавіта адсюль арыі, якія прыйшлі з поўначы, распаўсюдзілі нашчадкі сваіх міграцый ва ўсе бакі свету.

## Дадатак і каментарыі

Сёння навукоўцы ўсё больш схіляюцца да той думкі, што радзіма індаеўрапейцаў Беларусь і частка Заходняй Расіі. Аб гэтым, у прыватнасці, выказваліся ў шэрагу нумароў аўтары публікацый ў "Наука и жизнь" і навуковых часопісах ЗША і Германіі.

Пры гэтым не зусім карэктна ставіць роўнасць паміж індаеўрапейцамі і белай расай. Белая раса, відавочна, некалькі больш шырокі панятак, чым індаеўрапейцы. Ва ўсякім разе, некалі індаеўрапейцы складалі кампактную групу і з`яўляліся нешматлікім народам, які засяляў невялікую тэрыторыю. Гэту тэрыторыю сёння навукоўцы і абмяжоўваюць Беларуссю і некалькімі абласцямі Заходняй Расіі. Фактычна, экспансія індаеўрапейцаў -- не экспансія расы, а экспансія аднаго народа. Гэта ўжо пазней, па выніках экспансіі, яго назвалі індаеўрапейскім. Але пачаткова ён быў, відавочна, толькі адным з народаў паўночна-цэнтральнай Еўропы.

Моўная карта паказвае, што некалькі куткоў Еўропы рассяленне індаеўрапейцаў не закранула. У прыватнасці, гэта высакагорныя і цяжкадаступныя раёны, дзе захаваліся тубыльцы з мовай, якая папярэднічала індаеўрапейскай. Яскравы прыклад -- баскі ў Пірэнеях, сваякі грузін, не індаеўрапейцы, відавочна і загнаныя ў горы з раўнін прыходам індаеўрапейцаў. Як лічаць навукоўцы, механізм рассялення індаеўрапейцаў быў такім: у Беларусі і Заходняй Расіі ствараўся вялікі лішак насельніцтва, які ў розных накірунках разыходзіўся па Еўропе на працягу доўгага часу (шмат якіх эпох) там альбо знішчаў, альбо асіміляваў мясцовае нешматлікае карэннае насельніцтва.



Чаму ж менавіта Беларусь і Заходняя Расія з`яўляліся гэтым "гарнілам народаў"?

Справа ў тым, што толькі тут, у Еўропе (ды і ва ўсім Старажытным Свеце) размяшчаліся ўнікальныя (унікальныя для ўсёй планеты) адкрытыя радовішчы металаў. Гэта дазволіла стварыць тут першую ў свеце металургію, што, у сваю чаргу, зрабіла рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы і дазволіла атрымаць нечуваныя на тым часе ўраджаі. Менавіта тады і зарадзілася слова "скот", якое азначала багацце і якое стала сінонімам радзімы індаеўрапейцаў.

Лішкі сельгаспрадукцыі вялі да росту колькасці насельніцтва, прычым, розніца ў тэмпах росту насельніцтва з карэннымі народамі, якія не з`яўляліся індаеўрапейскімі, складала -- як піша "Наука и жизнь" -- 50 разоў. Народ, які насяляў Беларусь і Заходнюю Расію, вельмі хутка стаў самым шматлікім у Еўропе і Заходняй Азіі і рассяліўся па гэтых тэрыторыях.

Фактычна ўсе індаеўрапейцы -- гэта продкі цяперашніх беларусаў і заходніх рускіх. Буш, Мілошавіч, Гітлер, Брэжнеў, Калумб і Скарына -- гэта сваякі, якія мелі ў далёкім мінулым, магчыма, адных і тых бацькоў. І іх Радзіма -- тут.

У гэтым плане здаецца істотным наступнае. Сама Еўропа не абавязкова павінна была быць індаеўрапейскай. Калі б не ўнікальныя адкрытыя радовішчы металаў, якія выклікалі дэмаграфічны выбух на тэрыторыі Беларусі і Заходняй Расіі 8-12 тысяч гадоў таму назад, то Еўропа заставалася б той, якой яна была да прыходу індаеўрапейцаў з гэтых земляў.

Гэта былі этнасы, мовы і культуры, якія сёння здаюцца экзотыкай. Генетычныя доследы тубыльцаў еўрапейцаў, прадпрынятыя ў апошнія гады заходнімі і расійскімі навукоўцамі, паказалі, што Заходнюю, Цэнтральную і Паўднёвую Еўропу да індаеўрапейцаў, «продкаў беларусаў і заходніх рускіх», насялялі народы, генетычна ідэнтычныя альбо блізкія сучасным каўказкім народам.

Гэта значыць, што, хаця якім чынам, гісторыя склалася б інакш -- Еўропа павінна была быць генетычна адзінай з каўказкімі этнасамі (якія, відавочна, у адзін і той час рассяляліся па Еўропе і Каўказу). Гэта значыць, насельніцтва Францыі, Германіі, Англіі, Італіі складалі б нацыі, братнія адыгеям, чачэнцам, грузінам. Мала таго, зыходзячы з геаграфічных акалічнасцяў, следавала б меркаваць, што і ўся Амерыка была б заселена гэтымі сяміцкімі нацыямі.

**Не бярэмся судзіць, добра гэта ці кепска. Але факт у тым, што калісьці маланікаму беламу народу гісторыя дала шанц -- і ён ім скарыстаўся, распаўсюдзіўшыся з цяперашніх мінскіх зямель па ўсяму свету і стварыўшы белую расу і яе мовы.**

У гэтай сувязі хацелася б, каб жыхары тых жа ЗША лічылі сваёй старажытнай зямлёй не толькі Англію, адкуль выехалі іх продкі, але і беларускія і заходне -рускія землі, адкуль выехалі продкі англічан.

Трэба меркаваць -- будучыя больш грунтоўныя доследы канчаткова пакажуць, што радзіма белай расы размешчана тут, і гэта дазволіць нашчадкам індаеўрапейцаў больш ясна зразумець сваё адзінства і кроўнае сваяцтва.

Але ўжо сёння можна ставіць знак роўнасці паміж індаеўрапейскай і старажытнаславянскай мовай і лічыць апошні эталонам у індаеўрапейскіх мовах. І дакладна тым самым генетычным эталонам і асновай для белай індаеўрапейскай расы трэба лічыць народ Беларусі і Заходняй Расіі.

## Гледзячы з Глыбокага

### Каментарый "ВГ"

Гледзячы на карту Беларусі, асабліва паўночную яе частку, мы ўбачым назвы азёраў і рэк, якія не вытлумачаюцца ні з беларускай, ні з літоўскай, ні з латышскай моваў. Беларускія даследчыкі, чамусьці ўпарта іх адносяць да балцкіх. Вось, на Мёршчыне, ёсць вялікае возера Абстэрна. Гледзячы аднойчы, выпадкова, на карту Швецыі, я заўважыў азёры Венерн (Vänern) і Ветэрн (Vättern). Адкінуўшы ў назве "Абстэрна" прыстаўны славянскі канчатак "-а", мы ўбачым аднолькавы суфікс "-ерн" (Obstern). Не бяруся сцвярджаць, бо шведскай мовы не ведаю, што гэтыя назвы родныя, і што тут жылі скандынавы, якія пакінулі нам гэтую назву і шмат іншых. Аднак, праз Беларусь праходзіў шлях "з варагаў у грэкі", і скандынавы маглі пакінуць гэтыя назвы. Між тым, археалагічныя раскопкі на Глыбоччыне (вёскі Чарневічы, Залескі, Шо) паказваюць, што ў старажытных мужчынскіх пахаваннях знаходзяць чарапы баранаў альбо казлоў. Між тым, чарапы барана альбо авечкі нідзе больш у старажытных пахаваннях на Беларусі не сустракаюцца. Хіба яшчэ на этнічных беларускіх землях на Смаленшчыне ў Гнездаве. У Скандынавіі ахвярапрыношанні гэтых жывёл -- з`ява звычайная. Казёл там быў прысвечаны Тору -- Пяруну, боству земляробства і сямейнай аседласці.

Наш славуты глыбачанін, гісторык і прэм`ер Беларускай Народнай Рэспублікі, **Вацлаў Ластоўскі** ў часопісе "Крывіч", які ён выдаваў на эміграцыі ў Коўне (1926-27 гг., №12, стар.68), аб праявдзенні старога звычаю Дзядоў каля вёскі Рэчкі, піша: *"... У гэтую ноч збіраліся старыя сяляне, прыводзілі з сабой казла (альбо барана), распальвалі на цвінтары агонь, рэзалі казла, варылі яго ў капліцы і з абрадавымі песнямі ўладкоўвалі памінальную вячэру..."*

Паданні пра казла згадвае даследчык Глыбоччыны канца XIX ст., захавальнік Віленскага музея старажытнасцяў, Ф.В. Пакроўскі -- нібыта казла бачаць уночы на курганах.

На старажытных цвінтарах Глыбоччыны, на амшэлых надмагільных камянях, мы сустракаем вывы свастыкі. Сустракаюцца яны і ў раскопках на гліняных збанах. Іх можна ўбачыць у Глыбоцкім гісторыка-этнаграфічным музеі.

Сімволіка свастыкі дзесьці нітуецца з паходжаннем культа Барана (альбо казла) на Глыбоччыне. У свастыцы старажытныя людзі бачылі Сонца, перакрыжаванне маланак, молата Тора -- Пяруна, які ездзіў на фурманцы, запрэжанай двума казламі.

У XIX ст. у Браслаўскім павеце было зафіксавана святкаванне сялянамі своеасаблівага свята -- камаедзіцы, якое адзначалася 24 сакавіка і было звязана з прабуджэннем мядзведзя. Ладзіліся скокі ў мядзведжых скурах ці вывернутых воўнай вонкі кажухах, да гэтага дня пякліся адмысловыя стравы. Цікава, што старажытнагрэцкія вясёлыя мядзведжыя святы таксама былі ў сакавіку і называліся "камедыя", што дужа нагадвае "камаедзіцу". Лічыцца, што свята гэта ўзнікла ў праіндаеўрапейскі перыяд. У грэкаў рытуальныя скокі ў мядзведжых скурах выконвалі жрацы Артэміды-Браўроніі, бо мядзведзіха лічылася жывёлінай, звязанай з Артэмідай.

Разважаючы пра вялікія радовішчы металаў (М. Галдзянкоў) на тэрыторыі Беларусі і Заходняй Расіі, чамусьці адразу прыходзіць на памяць, што ў нас скрозь сустракаюцца назвы вёсак і пасёлкаў з назвамі Рудня, Рудніца, Рудомля і г.д. Сустракаюцца яны і на Смаленшчыне. Мінулым годам археолаг А. Мядзведзеў з НАН Беларусі праводзіў раскопкі гарадзішча III - IV ст.ст. у Лаўрынаўскім лесе (за 1 км. ад Глыбокага) ,і ў адвале зямлі скрозь сустракаўся жалезны шлак. На пытанне, дзе яны (жыхары гарадзішча) бралі руду, археолаг адказаў, што балотную руду маглі здабываць і за 50 метраў ад гарадзішча.

Мінулае хавае шмат таямніц, і іх разгадка прымушае нас па-новаму паглядзець на сваю Радзіму. Сёння многія людзі зневажаюць яе мову, культуру і гісторыю. Можа так стацца, што глыбоцкія, пастаўскія, браслаўскія, мінскія, полацкія землі далі свету сучасную цывілізацыю. І мы на гэту зямлю не прыйшлі з ніадкуль. Гэта і ёсць наша зямля абетаваная, і наш народ нарадзіўся тут.

# Пакаштуйце "Глыбоцкія клёцкі"

**Клёцкі – не для насычэння страўніка, а для добрага настрою. Такую магчымасць мелі ў нядзелю, 7 красавіка, жыхары горада.**



Фота Ю.Калбасіча

Усе чулі, што ў Глыбокім ёсць свая каманда КВЗ, але мала каму пашчаслівілася яе бачыць у дзеянні. Гэта звязана са спецыфікай гульні ў КВЗ. Каманда часцей за ўсё выступае на выездзе, удзельнічае ў турнірах. Таму з'яўленне "Глыбоцкіх клёцак" на сцэне ГДК – амаль сенсацыя. Але гледачы, якія патрапілі на вясёлае прадстаўленне, не пашкадавалі. Гумар, жарты, мізансцэны – у лепшых традыцыях усімі любімай тэлегульні. Весялілі хлопцы і дзяўчаты ўсіх ад душы, прапаноўвалі пароды на вядомых поп-зорак і беларускіх выканаўцаў. Прыемна было чуць жарты мясцовага значэння. Аказваецца, у Глыбокім ёсць месца для аматараў экстрэмальнага адпачынку – гэта наш парк Перамогі. Дастаткова прайсціся па яго алеях, а экстрым не пакіне сябе чакаць з вярэшынь дрэў.

Размінка, адказы на пытанні гледачоў, заключнае дамашняе заданне падымалі настрой, а зала залівалася смехам. Чаго толькі каштавала песня пра лятучага пацука – канкурэнта Пацываці.

І ўсё ж, хто яна, наша каманда КВЗ? Узрост яе невялікі – першае выступленне прайшло ў снежні 2000 года ў Шаркоўшчыне. Было паражэнне, але яно дало магчымасць нарошчваць сваё майстэрства. Тады каманда называлася "Сімплісяткі". Яе кіраўнік і нязменны капітан – Анатоль Гігола. Якраз яму належала ініцыятыва стварэння КВЗ у Глыбокім. "Я запытаўся ў рабят: хочаце пагуляць у КВЗ? Яны згадзіліся, мы пачалі рэпетыцыі," – сказаў у час гутаркі Анатоль. Ён у свой час стаў чэмпіёнам Беларусі па КВЗ, выступаў за каманду "Сімплісіці" Віцебскага дзяржаўнага універсітэту, таму шмат чаму змог навучыць сваю каманду. "Больш наша каманда ў Глыбокім выступаць не будзе, хоць многія лічаць нашу каманду прафесійнай, таму і заніжаюць балы ў час выступленняў, каб падтрымаць нашых сапернікаў. Але большасць удзельнікаў – гэта выпускнікі гарадскіх школ, а пасля 11 класаў яны з'язджаюць, і мы губляем падрыхтаваных ігракоў. І гэта ўжо трэці склад каманды. Таму хацелася б бачыць у яе складзе рабочую моладзь". Дапамагаюць камандзе гарадскія арганізацыі – Маладзёжны цэнтр і БПСМ, але з іх дапамогай вырашаюцца толькі арганізацыйныя пытанні.

Нашай каманда заняла трэцяе месца на фестывалі ў Віцебску. Спыняюць развіццё КВЗ у горадзе фінансавыя перашкоды. Ёсць запрашэнні з Магілёва і Віцебска, прапаноўвалі ўдзел у кубке БДУ, але няма грошай на гэтыя паездкі. Кошт білета ў 1200 рублёў напужаў многіх гледачоў. Але ці вымяраецца кошт усмешкі і добрага настрою грашыма?

*Ю. Калбасіч*

# Чаму нас не разумеюць на захадзе?


Фота IREX /ProMedia

Спачатку, напэўна, патрэбна крыху гісторыі. Адразу пасля заканчэння другой сусветнай, самай крывавай з войнаў у гісторыі чалавецтва, у грамадствах большасці краін свету наспела разуменне ў неабходнасці стварэння міжнароднай арганізацыі, якая б сваёй мэтай ставіла прадухіленне новых войнаў і канфліктаў, рэгулявала супольнае жыццё. Так у 1945 годзе і была ўтворана Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. Але было і разуменне таго, што без карэнных зменаў ва ўнутраным жыцці паасобных краін, а менавіта ў аброне правоў чалавека, дэмакратычных каштоўнасцяў свет будзе заставацца ў "падважаным " стане. Бо вопыт мінулага паказваў, што краіна з таталітарным рэжымам рана ці позна, але абавязкова стане прад'яўляць прэтэнзіі да іншых, выступіць завадатарам узброеных канфліктаў і войнаў. Таму ў 1948 годзе і была прынята Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Было шмат перапетый, як з прыняццем гэтага дакумента, так і з падпісаннем яго рознымі краінамі. Але дэкларацыя – гэта яшчэ не закон. Адным з законаў, якія маюць юрыдычную сілу для краін-удзельніц пагаднення стаў Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах. Беларусь падпісала гэты дакумент, тым самым узяла на сябе абавязкі па выкананню тых патрабаванняў, якія міжнародная супольнасць лічыць падмуркам у абароне правоў чалавека. І ў нашай Канстытуцыі практычна прысутнічаюць усе адпаведныя артыкулы Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Больш таго, Беларусь праз кожныя чатыры гады прадстаўляе ў Камітэт па правах чалавека перыядычныя даклады аб стане спраў. Пяты такі даклад наша краіна павінна была прадставіць 7 лістапада 2001 года. Але пра яго пакуль што нічога не вядома. Так што пагаворым пра чацвёрты перыядычны даклад Беларусі міжнароднай супольнасці.

Скажыце, шмат мы чулі пра гэты даклад са сродкаў масавай інфармацыі, дзяржаўных сродкаў? Пра тое, каб мелі магчымасць яго прачытаць – і размова не ідзе. Ну а тое, якія высновы зрабіў Камітэт па правах чалавека ААН з гэтага даклада, з'яўляецца, відаць, ахоўваемай тайнай.

Дык звернемся да гэтай ацэнкі міжнароднай супольнасцю справаздачы беларускага ўрада. Яна была выказана 6 лістапада 1997 года.

Дакумент аб'ёмны, поўнасцю яго прывесці магчымасці няма. Так што толькі невялікія вытрымкі.

Камітэт вітаў адно з рашэнняў Канстытуцыйнага суда РБ. Прыняў да ведама розныя меры, якія здзяйсняюцца для паляпшэння становішча жанчын на Беларусі, асабліва на рынку працы і стварэнне Крызіснага цэнтра для жанчын, якія падвергліся сексуальнаму і бытавому гвалту. Пакінем гэта без каментарыя. Беларускім жанчынам, напэўна, ёсць што адказаць на гэта.

А вось праблем, якія выклікаюць занепакоенасць Камітэта, хапіла аж на 15 артыкулаў. Прычым, кожны з іх у нечым вызначальны, датычыць менавіта палажэнняў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Першы пункт прывядзём поўнасцю: "Камітэт з занепакоенасцю адзначае, што ў краіне захоўваюцца перажыткі мінулага таталітарнага рэжыму і што за перыяд, прайшоўшы пасля разгляду Камітэтам у 1992 годзе трэцяга перыядычнага даклада дзяржаў-удзельніц, становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі значна пагоршылася. Камітэт, у прыватнасці, адзначае захаванне палітычных пазіцый, якія сведчаць аб нецярпімасці да іншых меркаванняў альбо крытыкі і перашкаджаючых заахвочванню правоў чалавека і іх поўнамаштабнай абароне, адсутнасць заканадаўчых абмежаванняў у адносінах паўнамоцтваў выканаўчай улады і узмацняючуюся канцэнтрацыю ўладных паўнамоцтваў, у тым ліку заканадаўчых паўнамоцтваў, у руках выканаўчай улады без якога б то ні было кантролю з боку судовай сістэмы."

Камітэт выказвае занепакоенасць шматлікімі паведамленнямі аб жорсткім абыходжанні міліцыі і іншых праваахоўных органаў з удзельнікамі мірных дэманстрацый і асобамі, падвергнутымі арышту ці затрыманню, вялікай колькасцю выпадкаў прымянення імі зброі. Тым, што тэрмін утрымання пад арыштам да суда можа працягвацца да 18 месяцаў і гэтым правам надзелены пракурор, а не суддзя. Тым што назначэнне суддзяў на іх пасады не адпавядае прынцыпу незалежнасці і непарадузятасці судовых органаў. Тым, што падарваны сам прынцып незалежнасці адвакатаў, якія пастаўлены ў падпарадкаванне міністэрству юстыцыі. Тым, што адвольна ўмешваюцца ў прыватнае жыццё – падслухоўванне тэлефонных размоў, вобыскі. Тым, што не захоўваецца прынцып права на свабоднае выказванне меркаванняў, ёсць абмежаванні, уведзеныя у адносінах права на свабоду сходаў.

Ну і гэтак далей і гэтак далей. Па кожнаму з пунктаў Камітэт дае свае рэкамендацыі. Але як да гэтых рэкамендацый прыслухоўваюцца ўлады, кожнаму вядома.

Дык як нас могуць разумець у сусветнай супольнасці пасля гэтага?



Дарэчы, да Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах ёсць Факультатыўны пратакол. Беларусь яго таксама падпісала. У адпаведнасці з гэтым пратаколам любы грамадзянін, правы якога парушаныя і які прайшоў праз усе судовыя інстанцыі сваёй краіны, можа звярнуцца напрамую ў Камітэт ААН па правах чалавека. І такі прэтэдэнт ёсць. Грамадзянін Уладзімір Лапцэвіч з Магілёва распаўсюджваў улёткі. Быў затрыманы і аштрафаваны. Прайшоўшы ўсе судовыя інстанцыі, ён звярнуўся у Камітэт па правах чалавека. І той прызнаў, што парушэнне аднаго з артыкулаў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах мела месца. Пасля гэтага дзяржава-удзельніца (Беларусь) павінна вярнуць нанесеныя грамадзяніну страты, уключаючы грашовую кампенсацыю з улікам інфляцыі і судовых выдаткаў. Прапануецца таксама прыдаць гэта рашэнне галоснасці і прыняць меры, каб такіх выпадкаў больш не было. Грошы нібыта вернуты, але сам грамадзянін ужо за мяжой. Пра галоснасць гаварыць не будзем.

Думаю, што вышэйсказанае, не патрабуе асаблівых каментарыяў. Вывады кожны зробіць сам.

А закончу вось чым. І ў Камітэце па правах чалавека ААН, і ў Еўрапейскай супольнасці выклікае неразуменне пазіцыя Беларусі да адмены смяротнага пакарання. Уся Еўропа спрэс даўна прыняла на сябе такія абавязацельствы. Дзе гэта стала законам, дзе закон яшчэ не прыняты, але мараторый на смяротнае пакаранне накладзены. І толькі Беларусь стаіць асобна. Але гэта ўжо тэма іншай размовы.

*Алесь Касцень*

